

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 38 (119). 16 — 22 верасня 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.

## БУЛЬБАШ



Фота Андрэя ВАЖЭЙКІ

НАВІНЫ

### Уладзімір Кемяжук вярнуўся ў саўгас

**Старшыня Слонімскага раённага Савета дэпутатаў Уладзімір Кемяжук адмовіўся ад сваёй пасады і вярнуўся ў саўгас "Пераможац" на ранейшае дырэктарскае месца.**

"Да працы ў райсавеце я ніяк не змог прывыкнуць, таму вырашыў вярнуцца ў саўгас", — сказаў карэспандэнту "ГС" Уладзімір Паўлавіч.

Новы старшыня райсавета будзе абраны 29 верасня на сесіі раённага Савета дэпутатаў.

Сяргей ЧЫГРЫН

### Памяці сясцёр-непакалянак

**11 верасня ў касцёле св. Андрэя ў Слоніме адбылося ўрачыстае набажэнства, прысвечанае памяці блаславёных пакутніц, слонімскіх сясцёр-непакалянак Евы і Марты, якія за дапамогу партызанам і яўрэям былі расстраляны фашыстамі на Пятралевіцкай гары 12 снежня 1942 года.**

На ўрачыстасць прыехалі біскупы Эдвард Мадэрскі з Польшчы і Аляксандр Кашкевіч з Гродна, 50 сясцёр-непакалянак з Беларусі, Украіны і Польшчы, а таксама 20 ксяндзоў з навакольных прыходаў Слонімскага і суседніх раёнаў.

Святую імшу, прысвечаную памяці загінуўшых сясцёр-непакалянак, правіў біскуп Эдвард Мадэрскі. Пасля імшы ўдзельнікі набажэнства наведалі Пятралевіцкую гару і ўсклалі кветкі на магілы сясцёр Евы і Марты.

Валянцін ЧУРЫЛА

### Забастоўка ў калгасе

**Працаўнікі калгаса імя Чапаева Мастоўскага раёна аб'явілі забастоўку. Ужо тры месяцы яны не атрымлівалі заработнай платы.**

Асабліва незадаволенымі былі кабеты, паколькі не мелі сродкаў выправіць сваіх дзетак у школу. Цярпенне людзей скончылася, і яны выклікалі прадстаўніка з райаграпрама. Акцыя працягвалася не доўга. Прадстаўнік раёна паабяцаў, што такое болей не паўторыцца і грозна памахаў пальцам на старшыню калгаса ды запатрабаваў, каб ён на працягу месяца разлічыўся з калгаснікамі. Старшыня таксама паабяцаў грошы выдаць.

Ці будуць тыя абяцанні выкананы, ніхто не ведае, хоць заробак у людзей складае ўсяго некалькі мільёнаў рублёў у месяц.

Антон МАКЕЙ



ЗДАРЭННІ

### Да Слоніма не даехалі...

**Жудасная трагедыя здарылася вечарам, 10 верасня, на дарозе Баранавічы — Слонім.**

Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у Баранавіцкім раённым аддзеле міліцыі, у 22 гадзіны 10 мінут вадзіцель аўтамашыны "Жыгулі", былы настаўнік слонімскай СШ №10 Міхаіл Волкаў, рухаючыся па дарозе ў бок Слоніма, не справіўся з кіраваннем і стукнуўся ў аўтамабіль "МАЗ", які стаяў на абочыне. У выніку аварыі вадзіцель аўтамабіля і адна з пасажырак загінулі на месцы здарэння. Другая пасажырка з цяжкімі калецтвамі дастаўлена ў бальніцу.

Валянцін ЧУРЫЛА

### Крадуць дызпаліва

**Высвятляецца, што за час уборкі ўраджаю на Зэльвеншчыне было скрадзена 795 літраў дызпаліва на суму 75,5 мільёнаў рублёў.**

Напрыклад, трактарыст калгаса "Бальшавік" С. Іваноў украў 5 літраў дызпаліва, а работнікі калгаса "Зара" В. Канецкі і В. Латош злілі з калгаснага трактара 20 літраў саляркі.

Але больш за ўсіх укралі: работнік калгаса "Рассвет" Ю. Навакомскі — 80 літраў дызпаліва, Л. Лукашэвіч з калгаса імя Леніна — 150 літраў саляркі і камбайнер калгаса "Рассвет" А. Савошчык, які з камбайна КСК-100 зліў 315 літраў дызпаліва. Злодзеі затрыманы і пакараны штрафам.

Сяргей ЧЫГРЫН

### Ахоўнік-злодзей

**У саўгасе "Мастоўскі" была створана аператыўная група па барацьбе са злодзеямі.**

Дырэктар саўгаса прызначыў у яе склад двух былых міліцыянтаў. Адзін з іх вечарам адпусціў вартаўнікоў з фермы, паколькі з'яўляўся старэйшым над імі, запэўніўшы іх, што будзе вартаваць сам і кароўнік, і бульбяное поле, якое знаходзілася побач. За ноч былы міліцыянер разам са сваімі сябрамі выкапалі бульбы на сорак пяць мільёнаў рублёў. Справа перададзена ў суд.

Язэп ПАЛУБЯТКА

# НА ЛЬНОЗАВОДЕ ПРОБЛЕМА С СЫРЬЕМ

**2 июля производственная линия Слонимского льнозавода из-за отсутствия сырья была остановлена. Более 40 работниц двух смен были отправлены в очередные отпуска. Прошел месяц, но ситуация не изменилась — завод работу так и не начал, поскольку не было сырья — льнотресты. Она лежала на полях хозяйств Слонимского и соседних районов и ее необходимо было поднимать, пока не пошли дожди. Но заниматься этим трудоемким делом в большинстве льноводческих хозяйств некому — не хватает рабочих рук.**

В связи с этим руководство льнозавода приняло решение самим принимать участие в заготовке сырья. С этой целью работницам обеих смен основного производства было предложено выезжать в колхозы и совхозы для оказания помощи в подъеме льнотресты. Такое предложение пришлось по душе не всем работницам. Возникла конфликтная ситуация. Для ее выяснения корреспондент "ГС" встретился с главным инженером льнозавода Надеждой Тарсуновой, которая пояснила, что направление женщин на работу в хозяйства района является мерой вынужденной и осуществляется исключительно с их согласия.

— Около 20 работниц, не изъявивших желания работать на подъеме льнотресты с полей, написали заявление о предоставлении им отпуска без сохранения заработной платы, — сказала Надежда Михайловна. — А тем работницам, которые согласились помочь хозяйствам в подъеме льнотресты с полей, завод выплачивает 50% средней заработной платы и 50% премиальной доплаты в месяц. Остальную часть зарплаты женщины получают в колхозах и совхозах, — пояснила главный инженер.

Заработная плата в этом году на льнозаводе намного ниже, чем в прошлом, — сказала Надежда Михайловна, — и составляет 14 миллионов рублей. Связано это с тем, что закупочные цены на сырье выросли почти в семь раз, а стоимость льноволокна осталась на прежнем уровне. И если раньше часть своей продукции завод имел возможность продавать за валюту, то в настоящее время все льноволокно предприятие обязано поставить только на Оршанский льнокомбинат.

Также Надежда Тарсунова сообщила, что в этом году, по всей видимости, придется простаивать гораздо больше времени, чем в прошлом. Основанием для такого предположения послужило то, что во многих льноводческих хозяйствах Слонимского и соседних районов урожай льна из-за жары погиб. В настоящее время заготовлено 2,4 тысячи тонн льнотресты, вместо 5-6 тысяч тонн, необходимых для нормальной двухсменной работы завода на протяжении года.

В заключении необходимо отметить, что перевод работника на другую работу допускается только с его согласия. В данном случае действия администрации льнозавода не противоречат нормам трудового законодательства.

Валентин ЧУРИЛО

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

**20 верасня завяршаецца падпіска на "Газету Слонімскую" на чацвёрты квартал. Кошт падпіскі:**

**на месяц — 120 тысяч руб.,**
**на квартал — 360 тысяч рублёў.**

**На "ГС" могуць падпісацца жыхары Слонімскага, Зэльвенскага, Дзятлаўскага і Мастоўскага раёнаў.**

**Падпісны індэкс — 64042.**

НАВІНЫ

### Крестьянам вернут деньги?

**В последнее время наблюдается тенденция по сокращению задолженности за закупленный молодняк крупного рогатого скота у населения.**

Так в Слонимском районе на 27 августа этого года хозяйства были должны населению 330 миллионов рублей. Основной причиной имеющейся задолженности является отсутствие в колхозах и совхозах собственных финансов и недостаточное выделение кредитных средств как раз под закупку скота. Комитет государственного контроля Гродненской области держит этот вопрос на контроле.

Наталья ФУРСОВА

### Власть берется регулировать цены

**Гродненский облисполком принял решение "О порядке регулирования цен (тарифов) на социально значимую продукцию (товары, услуги) для местного потребления".**

Документ утверждает перечни социально значимых товаров, по которым облисполком будет осуществлять государственное регулирование цен.

В список товаров (работ, услуг), по которым власти будут утверждать цены, включено шесть наименований производимых в области товаров: мука ржаная и пшеничная (предельный уровень рентабельности — 10%), субпродукты свинины и говядины (5%), ремонт обуви, услуги парикмахерских и фотографии (по 15%) и ритуальные (10%).

БелаПАН

НУ І НУ!

### Сасіскі ў лесе

**У рэдакцыю нашай газеты зайшоў слонімец Пётр К., які прасіў не называць яго прозвішча, і паведаміў, што ў чацвер, 9 верасня, у лесе, недалёка ад вёскі Новая Стража, ён натрапіў на кучу сасісак, сардэлек і вэнджанай каўбасы.**

— Было гэта ў сем гадзін вечара, — пачаў расказваць слонімец. — Я на машыне вырашыў пад'ехаць па апенькі. Ідучы па лесе, натыкнуўся на кілаграм трыста гэтых сапсаваных мясных вырабаў. Хто і адкуль іх прывёз — застаецца загадкай.

Сапраўды, каментарый тут не патрэбен. З гэтага выпадку прыгадваецца адна прымаўка: сам не гам і другому не дам.

Сяргей ЧЫГРЫН

ВЁСКА. НАШЫ ЛЮДЗІ

# ЕГЕР МІКАЛАЙ КІСЛЯК

**Мікалай Адамавіч Кісляк 15 гадоў адпрацаваў вальшчыкам лесу ў Слонімскім лягасе. Калі ветэран лягаса пайшоў на заслужаны адпачынак, яму прапанавалі пасаду егера ў Дзераўноўскім лясніцтве.**



Фота Мікалая СУПРУНА

Мікалай Адамавіч згадзіўся, палюбіў сваю працу і з душой да яе адносіцца. Ён дакладна ведае, што ў лясах Дзераўноўскага лясніцтва жывуць 29 ласёў, 68 казуль і больш за 70 дзікоў. Для іх Мікалай Адамавіч на працягу лета нарыхтоўвае корм на зіму.

– Галоўная мая задача – ахоўваць лясных звяроў ад браканьераў, – сказаў Мікалай Адамавіч.

Па словах егера, у мінулыя зімы частымі гасцямі ў лясах Дзераўноўскага лясніцтва былі браканьеры з Баранавіцкага раёна, якіх ён неаднаразова затрымліваў. Асабліва запомніўся егеру выпадак, калі ён разам з былым дырэктарам лягаса Іванам Пігальскім затрымалі шасцёра браканьераў з Баранавіч, якія застрэлілі казулю. Спачатку няпрошаныя госці прасілі адпусціць іх, а калі ўбачылі, што супрацоўнікі лясной аховы няўмольныя, сталі пагражаць зброяй. І ўсё ж браканьеры былі дастаўлены ў лясніцтва, дзе на іх былі складзены і накіраваны ў суд адпаведныя дакументы.

Нягледзячы на сталы ўзрост, ветэран лягаса Мікалай Кісляк заўсёды актыўна ўдзельнічае ў мерапрыемствах, якія праходзяць у калектыве. На конкурсе лесарубаў, які праходзіў нядаўна на гарадскім стадыёне, Мікалай Адамавіч заняў пятае месца, апярэдзіўшы ў майстэрстве дзесяць маладых леснікоў.

Валянцін ЧУРЫЛА

НАВІНЫ

## Поможем инвалидам

**Слонимский райсовет Красного Креста принял решение о проведении с 25 сентября месячника по оказанию помощи одиноким инвалидам и инвалидам с детства.**

В связи с этим на прошлой неделе в центре милосердия по оказанию медико-социальной помощи, расположенного по ул.Доватора в Слониме, состоялась встреча представителей трудовых коллективов предприятий и учреждений города с сотрудниками райсовета Красного Креста.

Перед присутствующими выступила председатель райсовета Ольга Гавловская, которая огласила обращение ко всему населению района с призывом оказать помощь одиноким инвалидам и инвалидам с детства.

Как сообщили корреспонденту "ГС" в центре милосердия, на призыв о помощи откликнулись коллектив ЛПУ магистральных газопроводов, который перечислил 20 млн. руб., Слонимское ТМО – 30 млн. руб., городская типография – 10 млн. руб.

Валентин ЧУРИЛО

## Платить будем по себестоимости

**В Беларуси будет проводиться ежеквартальная индексация тарифов на электроэнергию для населения.**

Согласно постановлению Совета министров это делается "в целях приближения тарифов на электроэнергию для населения к уровню фактических затрат". В настоящее время, по сведениям БелаПАН, население оплачивает лишь около 15% себестоимости используемой электроэнергии.

Беларусь не в состоянии обеспечивать себя электроэнергией собственного производства и вынуждена закупать ее в соседних странах. Задолженность республики по этой статье импорта достаточно велика. На начало августа 1999 года долг Беларуси за электроэнергию, поставленную Россией, составлял 40,89 миллиона долларов США, Литвой – 66,81 миллиона долларов.

БелаПАН

## Выставка работ юных художников и литераторов

**С 15 декабря 1999 года по 28 февраля 2000 года в штаб-квартире ООН в Нью-Йорке на экспозиции "Видение нового тысячелетия" будут представлены лучшие художественные и литературные работы детей и подростков со всего мира.**

Они были отобраны в результате конкурса, который проводит в ознаменование нового тысячелетия департамент общественной информации ООН совместно с организацией "Международные друзья искусства".

В Республике Беларусь конкурс молодых художников, писателей и поэтов проводится департаментом общественной информации представительства ООН в Беларуси. Десять лучших работ будут отосланы в штаб-квартиру ООН в Нью-Йорке для участия в выставке.

Все желающие принять участие в конкурсе могут присылать свои работы до 15 октября по адресу: 220000, Минск, ул. Кирова, 17, 6-й этаж, представительство ООН в Беларуси, "Конкурс". Телефон: (017) 227-38-17.

ЗДАРЭННІ

## Тры пажары за тыдзень

**На мінулым тыдні ў Слонімскім раёне здарыліся тры пажары.**

У двары на Чырвонаармейскай вуліцы, падчас зварачных работ, цалкам згарэў аўтамабіль "Аўдзі-80".

У доме на вуліцы Касманаўтаў ад замыкання электраправодкі ўзнік пажар. Своечасова выкліканыя пажарныя выратавалі дом ад агню.

А ў вёсцы Міжэвічы Слонімскага раёна пяцігадовы Лёня К., гуляючы з запалкамі, падпаліў сена, нарыхтаванае яго бабуляй. На шчасце, рагуля гаспадыні не засталася без корму на зіму, бо пажарныя хутка патушылі агонь.

Валянцін ЧУРЫЛА

НАВІНЫ

## "Грымата" грымне на "Дажынках-99"

**Ансамбль "Грымата" Слонімскага раённага дома культуры прыме ўдзел у прэзідэнцкіх "Дажынках-99", якія адбудуцца ў Шклове 24-25 верасня.**

Гэта адзіны фальклорны калектыў з вобласці, які запрасілі на "Дажынкі-99". Калектыў ансамбля будзе жыць і харчавацца ў адным з магілёўскіх гатэляў за кошт арганізатараў мерапрыемства.

Сяргей ЧЫГРЫН

## "ГС" чытаюць па-рознаму

**Нядаўна ў "ГС" было надрукавана некалькі паведамленняў пра стан спраў у саўгасе "Мастоўскі".**

Працаўнікі гаспадаркі, прачытаўшы тыя паведамленні, павесілі газету на дошку інфармацыі ў дыспетчарскай. Дырэктар саўгаса А.Сядляр таксама прачытаў, пасля чаго скамечыў газету і выкінуў яе ў сметніцу. А пасля загадаў: "Болей тут не вешайце". На што ў адказ атрымаў: "Ад праўды не схаваешся".

Антон МАКЕЙ

## Сустрэча з Народным паэтам

**У самым пачатку гэтага навучальнага года да вучняў і настаўнікаў Гудзевіцкай і Пілкоўскай школаў на сустрэчу прыехаў Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.**

Між школьнікамі і госцем завязалася шчырая і добразычлівая размова, падчас якой Ніл Сымонавіч адораў усіх прысутных сваёй паэтычнай энергіяй, нястомным аптымізмам, а яшчэ бясконца раздаваў аўтографы. Раённыя чыноўнікі на гэтай сустрэчы не прысутнічалі. Пасля сустрэчы ў школах засталіся творы паэта, у мясцовым музеі – яго партрэт, а ў сэрцах людзей радасць ад сустрэчы з вялікім чалавекам.

## Мастоўскі вандроўнік

**Настаўнік фізкультуры Правамастоўскай школы Іосіф Лісай, па традыцыі, падчас летніх школьных канікулаў падарожнічае на веласіпедзе.**

Два гады назад ён пабываў у Польшчы, мінулым летам адпачываў на Нарачы дый наведаў Нясвіж. Сёлета 50-гадовы веласіпедыст-аматар пабываў на Азоўскім моры. Дзеля гэтага яму давялося праехаць тэрыторыю трох дзяржаў: Беларусі, Украіны і Расіі. Зараз Іосіф Лісай рыхтуецца ажыццявіць сваю запаветную мару – зрабіць падарожжа на веласіпедзе па еўрапейскіх краінах.

Язэп ПАЛУБЯТКА

АДУКАЦЫЯ

# ПРАБЛЕМЫ ПРАФЕСІЙНАГА НАВУЧАННЯ

**У Слонімскае ПТВ-189 сёлета прынята 260 навучэнцаў, прычым большасць з іх – выпускнікі базавых школ раёна. Як паведаміў карэспандэнту "ГС" дырэктар вучылішча Аляксандр Кароль, "папулярнасць сельскагаспадарчых прафесій сярод моладзі ўзрасла".**

Конкурс у вучылішча склаў два чалавекі на месца. За тры гады навучання юнакі і дзяўчаты маюць магчымасць закончыць сярэднюю адукацыю, атрымаць дыплом майстра сельгасвытворчасці, набыць пяць спецыяльнасцей. Сёлета ўпершыню на аддзяленне па спецыяльнасці "гаспадыня сядзібы" паступілі 13 юнакоў, якіх прыцягвае прафесія кухара.

"Каб адпавядаць запытам рынку, – сказаў спадар Кароль, – вучылішчу трэба мець сучасную матэрыяльна-тэхнічную базу, новыя вучэбныя праграмы, тэхніку і сродкі для навучання. Але 80% зношанасці машына-трактарнага парку не дазваляюць нам ісці ў нагу з часам. З 40 наяўных трактароў, самаму навейшаму – 6 гадоў. Каля палавіны з 30 аўтамабіляў падлягаюць спісанню. Няма ніводнай новай адзінкі сельскагаспадарчай тэхнікі. Не ў лепшым стане знаходзяцца і 6 экскаватараў".

У фінансавых адносінах вучылішча знаходзіцца "на галодным пайку". Сёлета, як ніколі ў папярэднія гады, з бюджэту выдзелена значна менш сродкаў на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне вучэбнага працэсу. І гэта ў той час, калі навучальная ўстанова мае запазычанасць толькі па аплаце камунальных паслуг у суме 1 млрд. рублёў.

Тым не менш, як сказаў Аляксандр Кароль, "вучылішча падрыхтавана да правядзення паўнацэннага навучання 720 юнакоў і дзяўчат, хаця для падрыхтоўкі вучэбнай базы прыйшлося зрасходаваць частку сродкаў, выдзеленых на развіццё вучэбнай гаспадаркі".

Валянцін ЧУРЫЛА

ЗАХАПЛЕННЕ

# БАРАДЗІНСКІЯ БАТАЛІІ

**Сябры слонімскага аддзела ваенна-гістарычнага клуба "Мінскі пяхотны полк" прынялі ўдзел у святкаванні чарговых угодкаў Барадзінскай бітвы 1812 года.**

Як вядома, у той бітве паміж французскімі і рускімі войскамі беларусы ваявалі з абодвух бакоў. Мінскі пяхотны полк быў у складзе рускай арміі. Памяць яго загінуўшых вайскоўцаў увекавечана на Барадзінскім полі адмысловым помнікам. З 1962 года ў дзяржаўным Барадзінскім ваенна-гістарычным музеі адбываюцца ўрачыстасці – "Дзень Барадзіна". Кожны год, у першую нядзелю верасня, з'язджаюцца сюды сябры ваенна-гістарычных клубаў з усяго былога Савецкага Саюза і з замежжа, каб рэканструяваць бai 1812 года. Гэтыя апантаныя людзі апранаюць форму таго часу, якую яны зрабілі ўласнымі рукамі. Вось і слонімцы ў гэтых адносінах нічым не адрозніваліся ад іншых.

Сёлета разам з сябрамі клуба "Мінскі пяхотны полк" (напомню, што яго слонімскі аддзел дзейнічае пры 11-й механізаванай брыгадзе, камандзір – гвардыі палкоўнік Іван Чаус) у Барадзіно пабывалі вучні кадэцкага класа СШ № 9 (класны кіраўнік – падпалкоўнік запасу Віктар Пенза). Слонімскія кадэты наведалі Спаса-Барадзінскі манастыр, помнікі французскай арміі Напалеона і Мінскага пяхотнага палка.

Міхаіл ХАРЧАНКА,
сябра ваенна-гістарычнага клуба
"Мінскі пяхотны полк"



*Сябры клуба "Мінскі пяхотны полк" на Барадзінскім полі*

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 14 верасня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7200 экз.
Заказ № 2455
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

# ЧЕГО МОЖНО ЖДАТЬ ОТ ПЕРЕГОВОРНОГО ПРОЦЕССА?

**Юрий ХОДЫКО, профессор**



Впервые после так называемого референдума в ноябре 1996 года намеки в государственных СМИ о переговорах между действующей властью и оппозицией имеют под собой реальные основания. Для правящего режима таким основанием являются развал экономики — фактически крах лукашенковской теории "рыночного социализма", международная изоляция, которая привела к катастрофическому опустошению валютных, резервов страны, наконец потеря последних признаков легитимности после 20 июля, когда истек 5-летний срок полномочий А.Лукашенко. С одной стороны, демократическая Европа не любит узурпаторов. С другой, ослабли козыри А.Лукашенко в торговле независимостью Беларуси, которая по недоразумению зовется "интеграцией" с Россией.

Этим объясняется несколько нервное заявление тогда еще президента А.Лукашенко о "диком крене на Восток", а также сенсационные заявления правительственной делегации в Женеве на заседании комиссии ООН по поощрению и защите прав человека о готовности провести "свободные и честные парламентские выборы в 2000 году". Сама формулировка готовности говорит о том, что все предыдущие выборы и референдумы не были ни свободными, ни честными.

Для оппозиции основанием для вступления на путь переговоров является конституционный тупик, в котором оказалась страна. Слишком незначительным утешением является то, что она была права и все 5 лет предсказывала плачевный конец правления А.Лукашенко. Созданный этим человеком режим не способен к самосовершенствованию. Поэтому участие в выборах в так называемое Национальное собрание для оппозиции исключено, ибо оно не имеет реальных властных полномочий. Выходов из этого тупика только два: либо силовой слом всего властного механизма, созданного А.Лукашенко, либо мучительные переговоры с узурпатором без определенных перспектив достичь удовлетворительного результата.

Выбор, вообще говоря, не легкий. Белорусская оппозиция внесистемна. Она и без выборов может существовать бесконечно долго, наблюдая за гниением режима. Но трупные миазмы не только отравляют политическую атмосферу. Задыхаясь в их волнах, народ Беларуси медленно, но неуклонно проваливается в бездну нищеты и безысходности. Поэтому оппозиционные политические партии, которые не признали результатов государственного переворота, поступили абсолютно правильно, вступив на переговорную тропу, не забывая и о своей первейшей обязанности наращивать массовое сопротивление режиму.

Узка и неровна тропка переговоров. Вдохновляет лишь то, что проводником по ней вызвалось быть международное сообщество в лице консультативно-наблюдательной группе (КНГ) ОБСЕ. Полтора года она действует в Минске, но за это время она не добилась каких-либо видимых результатов по демократизации режима. Подверглась критике со стороны оппозиции за призыв участвовать в выборах местных органов власти на условиях А.Лукашенко, но хорошо уловила изменения в общественных настроениях и возможностях оппозиционных партий после дружного бойкота местных выборов и не вполне успешной, но массовой кампании президентских выборов. Она увидела достаточно высокую степень единства оппозиции и сильно преувеличенную официальной пропагандой степень поддержки народом существующего режима.

В середине июля руководитель группы ОБСЕ по Беларуси А.Северин достиг соглашения с А.Лукашенко о создании рабочей группы по подготовке и проведению в 2000 году свободных и честных выборов в парламент. В эту группу, которая будет работать под руководством ОБСЕ, должны войти представители четырех сторон — существующей власти, оппозиционных партий, негосударственных общественных организаций и КНГ ОБСЕ. Предполагалось обсудить три вопроса: закон о выборах, доступ оппозиции к государственным СМИ и поправки в Конституцию. Вопрос о легитимизации возможных соглашений был обойден.

Нечеткость плана позволила А.Лукашенко тут же сделать попытку обмануть ОБСЕ. В своем распоряжении от 6 августа он возложил обязанность "организовать и провести консультации с политическими партиями и иными общественными объединениями РБ, а также с представителями международных организаций по вопросам совершенствования избирательной системы", на своего помощника М.Сазонова. Тем самым он не только сузил предмет переговоров, но и сделал попытку поставить его под свой контроль. Эту версию переговоров, абсолютно неприемлемую для оппозиции, тут же начали пропагандировать официальные СМИ.

Однако А.Лукашенко ошибся. На этот раз долгожданную твердость проявил г-н Вик. Он потребовал от М.Сазонова выполнения в полном объеме июльских договоренностей. И добился успеха. Более того, под давлением оппозиции план ОБСЕ стал более четким и реальным. В настоящее время он выглядит следующим образом. Переговоры имеют две стадии. На первой, консультационной, должны быть решены два вопроса — порядок доступа оппозиции к государственным СМИ и прекращение политических репрессий. После успешного разрешения этих вопросов начнутся собственно переговоры по внесению поправок в законы о выборах и СМИ, а также поправок в Конституцию, направленных на превращение парламента в единственный высший законодательный орган страны. На этой стадии будет обсужден и вопрос легитимизации достигнутых соглашений. У переговорного процесса будет только две стороны — власть и оппозиция. Представители негосударственных общественных организаций будут иметь функции консультантов, руководить дискуссией будет ОБСЕ.

Со своей стороны оппозиционные партии сформулировали свои минимальные требования в "Оновных положениях Платформы", которые подписали руководители семи организаций, и передали ВС 13-го созыва полномочия на утверждение состава делегации и мандата на ведение переговоров (то есть объема требований оппозиции).

Это важное решение. Оно блокирует стремление режима расширить состав оппонентов на переговорах и превратить их в пустую говорильню. Легальная часть ВС, которую признает международное сообщество, является центром белорусской оппозиции. Союз Верховного Совета и внесистемной оппозиции взаимно усиливает их влияние и гарантирует единство партий — субъектов переговорного процесса, предотвращает их раскол, к чему, без сомнения, будет стремиться режим.

Переговоры еще не начались. 3 сентября состоялась первая консультативная встреча по вопросу доступа оппозиции к государственным СМИ. 8 сентября — продолжение консультаций. 9 сентября должен быть согласован состав делегации оппозиционных партий. На ближайшей после этого дня сессии ВС он будет утвержден. Тогда и начнутся переговоры, если их предварительная стадия окажется успешной.

А пока перспективы переговорного процесса прячутся в густом тумане официозной пропаганды. Поэтому верить в их успех трудно. Однако возможности оппозиции существенно возрастут, если массовые акции 30 сентября (профсоюзы) и объединенное выступление оппозиции 17 октября покажут, что белорусский народ действительно не хочет пропустить шанс выйти мирно и без насилия из того тупика, в который его загнал режим А.Лукашенко.

**НОВОСТИ**

## Зенон Позняк в меншинстве?

**На заседании сойма Белорусского народного фронта, прошедшем 11 сентября, было определено, что вторая сессия съезда этой организации состоится 30—31 октября этого года.**

Сойм не поддержал идею председателя БНФ Зенона Позняка о проведении отдельного съезда Партии БНФ 26 сентября и о разделении фронта на две организации — "позитивистскую", которая была бы сориентирована на общественную деятельность, и "консервативную" партию, сориентированную на политическую деятельность, которую возглавил бы сам З.Позняк. По мнению З.Позняка, обе части существовали бы как самостоятельные организации и создавали бы коалицию БНФ. Однако в резолюции сойма под названием "Недопустить раскола!" отмечается, что такое разделение было бы искусственным, поскольку между представителями различных позиций во фронте "нет идеологических расхождений".

В другой резолюции сойм проинформировал членов партии, что последние распоряжения З.Позняка о снятии Левона Борщевского с должности исполняющего обязанности председателя БНФ и о назначении отдельного съезда партии БНФ "противоречат уставу партии" и не имеют юридической силы.

Тем не менее, часть членов сойма, присутствовавших на заседании, отказались регистрироваться и заявили, что сойм неправомочен принимать решения из-за отсутствия кворума. По мнению заместителя председателя БНФ Юрия Беленького, единственный выход из сложившейся ситуации — это переговоры между руководителями фронта.

**Алексей ЗНАТКЕВИЧ**

## Движение "За демократические и свободные выборы"

**В Минске создан оргкомитет по подготовке учредительного съезда общественного движения "За демократические и свободные выборы", проведение которого намечено ориентировочно на начало декабря.**

Оргкомитет возглавил экс-спикер Верховного Совета Беларуси 12-го созыва Мечеслав Гриб. Члены оргкомитета приняли обращение к гражданам и общественным объединениям страны. В нем подчеркивается, что демократические выборы парламента и президента являются "основным средством решения конституционного кризиса в Беларуси".

"Мы не преследуем цели прихода к власти, не претендуем на ведущую роль в политическом процессе и не собираемся подменять политические партии в борьбе за власть, — подчеркивается в обращении. — Основная задача движения — обеспечить возможность проведения открытых и честных выборов и референдумов в Беларуси, помочь их организовать и провести без нарушения избирательного законодательства, обеспечив тем самым в Беларуси возможность избрания легитимной власти".

**БелаПАН**

**ТРИБУНА**

# С ТАКИМИ СОВЕТЧИКАМИ НАМ НЕ ПО ПУТИ

**В №35 (116) "Газеты Слонімскай" прочитал интервью с Григорием Явлинским "Хотите заниматься интеграцией — занимайтесь конкретными вещами". Осадок остался горький на душе. Ведь кто советует? Известная в российском политическом бомонде личность, которая упорно не желает проводить свои программы ни в одном правительстве России. Такие же его и единодумцы в общественном объединении "Яблоко". Сегодня поддерживают кандидатуры Кириенко, Примакова, Степашина, а завтра их критикуют.**

Давать советы и критиковать всегда легче, чем самому работать и отвечать за свои дела.

Поражает сама казуистика мыслей Г.Явлинского. Сначала он говорит, что оба народа — белорусы и русские — единокровны, объединяемые общими корнями, историей, судьбой, духовностью и разорванные друг от друга волею исторических событий и неумными действиями политиков. Далее отмечает, что единение двух братских народов — дело нормальное.

Но рядом с этим в его интервью присутствует целый набор политического догматизма, сводящий идею интеграции к нулю. Здесь и затасканные мифы о стремлении А.Г.Лукашенко на российский трон и вмешательстве президента и Беларуси в дела России. Признался Г.Явлинский в любви к идеям Белорусского народного фронта, открыто отрицающих идею союза двух братских народов.

И закончилось все четкой и ясной мыслью, что господин Явлинский против единения, а только за экономический союз, как политическое кредо.

Вообще, читая вашу газету, наряду со статьями с заботой о благе слонимчан и борьбы с нарушителями нравственности, часто публикуются мысли сторонников антигосударственного, антипрезидентского и антинародного характера, расшатывающих устройство молодого белорусского государства, строящегося явно капиталистическое общество.

В вашей газете нет мыслей государственных деятелей Республики Беларусь, разъясняющих суть политики и деятельности президента и государства. Такая позиция редакции, не есть ли "политика двойных стандартов"? Ну, публикуйте хотя бы мысли ответственных лиц администрации Слонима и района по вопросам экономики и социально-общественной жизни, так их нет.

Сегодня не ясно лишь слабоумному, что выживать и экономически, и физически в беззубом капиталистическом мире можно только на почве единения братских народов. Всякий другой путь — это путь в никуда, в небытие. И с такими советчиками, как господин Явлинский, нам не по пути.

**В.И.МАМЕНКО, читатель газеты**

**От редакции.** Стиль автора оставлен без изменений.

